ПИСЬМО ВЕТЕРАНА

## ...На три буханки хлеба

*Главному редактору*
*газеты "Народная воля"*
*Середичу И.П.*

*от инвалида войны Винатовского А.Г.,*
*постоянного читателя газеты*
*(г.Барановичи, ул.Лидская, 9)*

***Прошу опубликовать письмо Президенту страны следующего содержания:***

Товарищ Президент!

Ваши слуги объявили на весь мир, что добавляют пенсию с ноября месяца инвалидам Отечественной войны и социальным пенсионерам. Я, разинув рот, ждал, радовался — и, наконец, дождался: сегодня принесли пенсию. Мне, инвалиду Отечественной войны, добавили... 1.480 рублей, жене — социальной пенсионерке — 150 рублей. На обоих — на три буханки хлеба...

Благодарю Вас, товарищ Президент. С Вашей стороны это "очень большая забота" о ветеранах войны в честь 60-летия освобождения Беларуси и 60-летия Победы.

Еще раз благодарю "за столь большую заботу".

**А.Г.ВИНАТОВСКИЙ.**

## Слово — не воробей

*Публичное заявление А.Лукашенко о ежегодных потерях белорусского бюджета, порядка 250 млн. долларов, из-за низких тарифов на транзит энергоносителей по территории Беларуси стало поводом для обращения лидера Объединенной гражданской партии Анатолия Лебедько в Прокуратуру Республики Беларусь. Председатель ОГП решил выяснить, в какой степени слова белорусского правителя соответствуют действительности. Если это правда, то прокуратура должна возбудить уголовное дело по факту нанесения ущерба стране в особо крупных размерах.*

Начальник отдела по надзору за исполнением законов в сфере экономики республиканской прокуратуры В.Плющ в ответе на обращение А.Лебедько написал: "...Прозвучавшие в ходе обсуждения сведения о суммах, получаемых от исполнения внешнеэкономических договоров, не свидетельствуют о причинении ущерба бюджету Республики Беларусь и не являются поводом для рассмотрения вопроса о возбуждении уголовного дела".

Анатолий Лебедько так прокомментировал ответ из прокуратуры РБ:

— Прокуратура должна была либо возбудить уголовное дело против Лукашенко, либо косвенно подтвердить, что Александр Григорьевич, мягко выражаясь, манипулирует цифрами и играет с гражданами страны в "напёрсток". То, что сделала прокуратура, на мой взгляд, — это не правовой выбор, а наиболее безопасный... Ведь выступления Лукашенко, содержащие неточности, явление не редкое.

**Пресс-служба ОГП.**

СПОВЕДЗЬ

# Чужое шчасце

У Мінск я прыехаў адвячоркам і адразу з чыгуначнага вакзала накіраваўся па адрасе, які быў запісаны на паперцы. Навокал ззяў агнямі горад, у перадсвяточнай мітусні (а было гэта якраз перад Новым годам) некуды спяшаліся людзі, а на маёй душы ляжаў цяжкі камень. Хацелася знайсці такое месца, дзе б мяне ніхто не бачыў і я нікога. Адзінота здавалася найвялікшым шчасцем, але я не меў на яе права, бо мой адзіны сын нядаўна ўчыніў цяжкае злачынства: у п'янай бойцы моцна пакалечыў маладога хлопца. Колю забралі ў следчы ізалятар, і міліцэйскі капітан адкрыта сказаў, каб мы з жонкай сушылі яму сухары, калі выгадавалі такую жорсткую і бяздушную асобу. Трэба было тэрмінова шукаць добрага адваката. Жонцы падказалі маладога, але таленавітага адваката, які жыў у сталіцы. Я хацеў перачакаць святы і тады ехаць да яго, але яна выправіла ў дарогу неадкладна. Ішоў да яго дадому, не ведаючы, ці прыме мяне гэты чалавек, ці наогул будзе размаўляць аб такой справе ў нерабочы час. Я быў гатовы да таго, што ён не адчыніць дзвярэй, прагоніць прэч.

З хваляваннем, ад якога нават успацелі далоні, падняўся на ліфце на пяты паверх вялізнага дома, націснуў на кнопку званка. Праз нейкае імгненне дзверы адчыніліся і я ўбачыў прыгожага маладога мужчыну.

— Калі ласка, заходзьце, — ветліва запрасіў ён. У кватэры было чыста і ўтульна, прыемна пахла нейкай парфумай.

— Шукаю добрага адваката, — растлумачыў мэту свайго візіту.

— Разумею, да мяне часта прыязджаюць людзі, — проста сказаў ён і тут жа прапанаваў. — Можа чаю ці кавы? Вы, напэўна, з дарогі, то прагаладаліся, а ў мяне гатова вячэра.

— Не, дзякуй, — адмовіўся я ад пачастунку, добра ведаючы, што нічога не палезе ў горла. Пасля таго страшнага вечара, калі сын нарабіў бяды сабе і людзям, я не мог спаць, еў без апетыту, толькі таму, што трэба было есці.

— Тады пойдзем у мой кабінет і пагутарым, — прапанаваў гаспадар.

Дома, відаць, больш нікога не было. Я зайшоў. У пакоі стаяў стол, крэсла, шафа з кнігамі і модная, абцягнутая скурай канапа. Акінуў поглядам пакой і раптам аж здрыгануўся, нібы ад удару токам: над канапай на сцяне ў рамцы вісела фотакартка. Паміж мной і маёй першай жонкай сядзеў маленькі бялявы хлопчык з вялікімі вачыма. Прыгожы, нібы анёлачак.

— Здыміце куртку, бо ў пакоі цёпла, — прапанаваў адвакат гасцінна.

Замест таго каб падпарадкавацца, я сказаў спёртым ад хвалявання голасам:

— Даруйце, хто на гэтым здымку? Адкуль ён у вас?

— А што, вы ведаеце гэтых людзей? — адчуўшы маё хваляванне, пытаннем на пытанне адказаў малады чалавек.

— Мужчыну... Некалі былі знаёмыя, — зманіў я.

— Гэтую фотакартку мама выкінула ў сметнік, але я падабраў, зрабіў рамачку і павесіў у сваім пакоі. Маленькі хлопчык — гэта я, побач — мая мама і чалавек, які некалі быў яе мужам. Сям'я, словам, — сумна ўсміхнуўся ён. — Справа ў тым, што мая мама доўгі час не магла нарадзіць дзіця. Шмат лячылася, страшэнна пакутавала, што не магла стаць маці, але нічога ад гэтага не змянілася. Яе муж таксама не ўяўляў сабе жыцця без дзіцяці. І тады мама прапанавала ўзяць малое з дзіцячага дома. Выбар па шчаслівай выпадковасці спыніўся на мне. Мне тады было пяць гадкоў, але ўсё памятаю...

Першы раз у дзіцячы дом мама прыехала адна. Наша выхавацелька прывяла яе ў пакой, дзе гулялі дзеці. Адзін хлопчык, які быў дужэйшы і ўсіх крыўдзіў, якраз адабраў у мяне цацку, і я заліўся горкімі слязамі. Не ведаю чаму, але я кінуўся за суцяшэннем не да выхавацелькі, а да гэтай чужой незнаёмай жанчыны. Уткнуўся тварам у яе паліто і адчуў на галаве ласкавую далонь:

— Не плач, дзіцятка, я цябе нікому не дам у крыўду. Хочаш быць маім сынам? — прамовіла такім мілым, такім душэўным голасам, што ў мяне зайшлося сэрца: яшчэ б! Хто ж не хоча мець маму, сям'ю!

Жанчына пачаставала ўсіх нас цукеркамі, патрымала мяне на каленях. Потым мы з ёй гулялі па двары.

Праз некаторы час яна прыехала да мяне з мужам, што на фотакартцы. Потым прыязджала яшчэ і яшчэ, і, нарэшце, мяне забралі з дзіцячага дома. З вялікага горада прывезлі ў пасёлак, і я пачаў жыць у прыгожым доме, дзе быў сад, агарод і ў будцы месціўся вялікі шэры сабака.

Мама працавала настаўніцай, а бацька — майстрам на мясцовай мэблевай фабрыцы. Спачатку я хадзіў у садзік, потым — у школу. Мама любіла мяне і шкадавала, а прыёмны бацька так і не змог знайсці ў сваім сэрцы любові да чужога дзіцяці. Ён не крычаў на мяне, не біў, але і ласкі ад яго я не бачыў ніколі. А так іншы раз хацелася прыгарнуцца да яго грудзей, расказаць аб сваіх справах. Што ні кажыце, а хлопчыку вельмі патрэбны мужчынская ласка і ўвага. Сваіх родных бацькоў я не памятаю, нават не ведаю, хто яны былі.

Калі я ўжо вучыўся ў другім класе, аднойчы застаў маму вельмі сумнай. Напэўна, яна нядаўна плакала, бо на вачах яшчэ не высахлі слёзы.

— Сядзь, Андрэйка, — паклікаўшы мяне на кухню, прапанавала мама. — Сядзь і паслухай. З сённяшняга дня мы з табой будзем жыць удваіх. Аказваецца, у таты ёсць другая жанчына і другі, родны, сын. Ён доўгі час хаваў ад мяне гэта, але праўду кажуць людзі — няма нічога тайнага, што б не стала яўным.

Праз пэўны час яны скасавалі шлюб. Мама дала мне сваё, дзявочае, прозвішча і сабе яго ўзяла. Імя па бацьку ў мяне такое ж, як і ў яе. Прыёмны бацька паехаў жыць у другі раён, а мама неўзабаве прадала дом і мы з ёй пераехалі ў Мінск, пасяліліся ў яе брата, які не меў сям'і.

— Вы і цяпер так жывяце? — не ўстрымаўся я.

— Не, праз пару гадоў мама выйшла замуж за пракурора, у якога памерла жонка, а дарослы сын жыў за мяжой. Гэты чалавек усынавіў мяне. Дзякуючы яму і маме я закончыў юрыдычны факультэт універсітэта, стаў адвакатам...

Увесь час, пакуль Андрэй расказваў, я быў думкамі разам з ім, зусім забыўшыся пра тое, дзеля чаго сюды прыехаў. Да драбніц памятаў той дзень, калі мая першая жонка Тамара павезла мяне ў дзіцячы дом паказаць хлопчыка, якога наважылася ўсынавіць. Мне, уласна кажучы, было ўсё роўна, які той хлопчык, бо дзіця чужое — яно і ёсць чужое. Тайком ад Тамары я ўжо заляцаўся да Зіны Міхальчыкавай, якая жыла ў суседнім раёне і, заседзеўшыся ў дзеўках, была гатова пайсці замуж за каго заўгодна. А калі яна зацяжарыла, усё вырашылася само сабой. Навошта мне гадаваць чужое дзіця, калі магу мець сваё, — разважаў я.

Мы з Зінай песцілі свайго адзінага сына, дыхаць на яго баяліся. А ён вырас гультаём і эгаістам. Рана пачаў курыць, прызвычаіўся да чаркі. Ледзь закончыў школу і ПТВ. Але працаваць не спяшаўся, чакаў, пакуль забяруць у армію.

Са службы вярнуўся таксама без жадання зарабіць капейку. Знайшоў сабе такіх самых сяброў, цягнуў з нас грошы на выпіўку, цыгарэты і дзяўчат. Аж пакуль не пакалечыў чалавека. Цяпер сядзе ў турму.

"Бог пакараў мяне за тое, што здрадзіў Андрэйку. Прыняў у сваю сям'ю, а бацькам для яго не стаў. Вось Бог і пакараў мяне Колем...", — пранеслася ў галаве.

Я ніколі не ўспамінаў ні пра першую жонку, ні пра прыёмнага сына. Мне было ўсё роўна, дзе і як яны жывуць, што з імі сталася. І вось якая сустрэча...

Я сядзеў, задумаўшыся, і не чуў, як Андрэй выйшаў з пакоя. Праз нейкі час ён вярнуўся і паведаміў:

— Зараз мы перакусім, а то нядобра трымаць вас галодным. Адзін цяпер гаспадару, бо мама і тата паехалі сустракаць Новы год у Італію. Дома будуць толькі пасля святаў.

А потым, падумаўшы, нясмела спытаў:

— А гэты чалавек, мой былы прыёмны бацька, ён жывы?

— Жывы, — ледзь вымавіў я, стараючыся не заплакаць.

— Можа сустрэнеце, то перадайце прывітанне. Я на яго крыўды не трымаю. Бог яму суддзя.

— Ды ўжо ж Бог асудзіў па справядлівасці, — прамовіў я, устаючы з канапы. — Пайду, Андрэй Мікалаевіч, дзякуй вам за ўсё.

— То мы ж яшчэ не павячэралі і не пагутарылі... — нічога не зразумеў ён.

— Потым... Я, магчыма, зайду да вас у другі дзень, пасля святаў, — пачаў я недарэчна апраўдваць свой адыход.

Устаў і накіраваўся да дзвярэй. Мяне праводзілі разумныя вочы добрага і справядлівага чалавека, які мог бы быць маім сынам, каб не мой эгаізм, каб не душэўная чэрствасць.

Дзверы зачыніліся, і я, не чакаючы ліфта, па ступеньках паволі пачаў спускацца ўніз. За тымі дзвярыма пакінуў чужое шчасце. А яно ж магло быць маім...

Я цвёрда ведаў, што ніколі не вярнуся сюды і не папрашу Андрэя Мікалаевіча бараніць ад кары майго Колю. Проста сэрца не вытрымае такога болю, такой крыўды на самога сябе.

**З пашанай,**

**Віктар Ігнатавіч.**

*(Запісала Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ.)*

ПАЗІЦЫЯ

***Валянціна КОЎТУН:***

# «Калі замест полымя — чад ад галавешак, я адмаўляюся гэтым дыхаць...»

**Імя беларускай пісьменніцы Валянціны КОЎТУН вядома не толькі ў нашай краіне. Цягам некалькіх дзесяцігоддзяў плённай працы на ніве нацыянальнай літаратуры яна падарыла аматарам паэзіі яркія зборнікі вершаў "Каляровыя вёслы", "На зломе маланкі", "Метраном", "Лісты да цябе". Яе пяру належаць зборнік апавяданняў "Калінавая гронка", кнігі для дзяцей і настаўніцтва, даследаванні па народнай творчасці. Шырокае прызнанне набыў раман Валянціны Коўтун "Крыж міласэрнасці", прысвечаны славутай дачцэ Беларусі паэтцы Алаізе Пашкевіч (Цётцы). Паводле гэтага, можна сказаць, галоўнага твора яе жыцця зняты чатырохсерыйны мастацкі фільм. Слова беларускай пісьменніцы гучыць у перакладах на ўкраінскую, літоўскую, рускую, азербайджанскую, італьянскую і іншыя мовы свету.**

**Ужо дзесяць год Валянціна Міхайлаўна ачольвае створаную ў 1993 годзе аўтарытэтную грамадскую арганізацыю — Міжнародны жаночы фонд святой Еўфрасінні Полацкай, да заснавання якога разам з ёю прычыніліся нашы знакамітыя суайчынніцы — пісьменніца з сусветным імем Святлана Алексіевіч, народная артыстка Марыя Захарэвіч, кампазітар Галіна Гарэлава, скульптар Святлана Гарбунова і іншыя.**

**Яшчэ адзін бок шматграннай дзейнасці гэтай таленавітай, неардынарнай асобы — яе, блізу чвэрці стагоддзя, праца ў некалі папулярным мастацкім часопісе "Полымя". Па меркаваннях многіх чытачоў гэтага выдання, публікацыі аддзела крытыкі і літаратуразнаўства, які ўзначальвала Валянціна Коўтун, вызначаліся высокім прафесіяналізмам, аб'ектыўнасцю і глыбінёй думкі. Дзеля гэтага пісьменніца не шкадавала творчых сіл, удумнасці, пачуцця прафесійнай і грамадзянскай адказнасці.**

**Працавала. Не шкадавала. Але...**

**Напрыканцы кастрычніка Валянціна Коўтун накіравала свайму літаратурнаму начальству заяву, з якой мы знаёмім чытачоў "Народнай волі".**

*Дырэктару Рэдакцыйна-выдавецкай установы*
*"Літаратура і Мастацтва" Бондар Т.М.*
*Галоўнаму рэдактару часопіса "Полымя"*
*Мятліцкаму М.М.*
*Рэдактара аддзела рэдакцыі часопіса "Полымя"*
*Новік В.М. (Валянціны Коўтун)*

### *Заява.*

*У сувязі з тым, што за кароткі тэрмін існавання РВУ "Ліатаратура і мастацтва" ад творчага супрацоўніцтва з часопісамі "Полымя", "Неман" і "Маладосць", штотыднёвіка "Літаратура і Мастацтва" адлучаны найбольш таленавітыя літаратары (а гэта такія народныя пісьменнікі і паэты, лаўрэаты дзяржаўных і літаратурных прэмій, у тым ліку міжнародных, як Янка Брыль, Ніл Гілевіч, Віктар Казько, Генадзь Бураўкін, Сяргей Законнікаў, Ніна Мацяш, Алесь Разанаў, Уладзімір Някляеў, Святлана Алексіевіч, Вольга Іпатава, Анатоль Кудравец, Генрых Далідовіч і іншыя), што катастрафічна знізіла творчы патэнцыял і запатрабаванасць выданняў сярод чытачоў і падпісчыкаў, а таксама з тае прычыны, што ў РВУ "Літаратура і Мастацтва" назіраецца пастаяннае гвалтоўнае парушэнне правоў чалавека і падмена сапраўднага клопату аб развіцці літаратуры разгулам амбіцый і расправай дырэкцыі з няўгоднымі літаратарамі-прафесіяналамі,*

*я, беларуская пісьменніца з 30-гадовым літаратурным стажам, у тым ліку са стажам працы ў часопісе "Полымя" блізу 25 гадоў, член Саюза пісьменнікаў Украіны, лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Аркадзя Куляшова, кандыдат філалагічных навук,*

*выказваю рашучы пратэст адносна вышэйазначанага стану спраў і датэрмінова, з 27.10.2003 г., па ўласным жаданні перапыняю свой Кантракт (працоўнае пагадненне) з РВУ "Літаратура і мастацтва".*

*3-я клінічная бальніца г.Мінска.*
*Аддзяленне кардыялогіі, палата № 19.*
*27 кастрычніка 2003 г.*

Пры першай жа магчымасці Валянціна Коўтун імкнецца на прыроду — удыхнуць свежага паветра.

Заява была імгненна падпісана дырэктарам РВУ Таісай Бондар. Валянціна Коўтун у "Полымі" ўжо не працуе...

**— Валянціна Міхайлаўна, Вы рашыліся на заяву аб спыненні кантракта з рэдакцыйна-выдавецкай установай "Літаратура і мастацтва" — сумнавядомым холдынгам — падчас знаходжання ў бальніцы. Ці не пагарачыліся, ці не паспяшаліся? Мо зараз шкадуеце — вось так, знянацку, кідаць напрацаваны плён, як кажуць, наседжанае за столькі часу творчае гняздо?**

— Шкадую? Не, не і не! Тое, што засталося за спінай, мне, канешне ж, вельмі і вельмі дарага. Але цяпер у тым колішнім маім гняздзе дыхаць няма чым, і я не збіраюся туды вяртацца ні ў якім разе.

**— Вы афіцыйна пазначылі прычыну свайго рашэння — заганную палітыку кіраўніцтва холдынга, якая вядзе да падзення аўтарытэту літаратурнага выдання.**

— Хіба не важкая прычына — адмовіцца цярпець нецярпімае? Да апошняй жыццёвай хвіліны не забыць мне самотна-горкія позіркі Янкі Брыля, Ніла Гілевіча, Рыгора Барадуліна і іншых маіх творчых настаўнікаў і братоў-пісьменнікаў, якія ў знак пратэсту супраць гвалтоўнага прэпарыравання пісьменніцкага друку і стварэння Рэдакцыйна-выдавецкай установы "Літаратура і Мастацтва" забіралі свае творы з "Полымя", "Маладосці", "ЛіМа", "Крыніцы"... Ужо беспардонна была аплявана годнасць такіх слынных творцаў, як лаўрэаты дзяржаўных і літаратурных прэмій Сяргей Законнікаў, Генрых Далідовіч, Алесь Жук, Ала Канапелька; сілавым метадам змешчаны з пасад галоўныя рэдактары часопісаў; сыходзілі з рэдакцый і іншыя майстры слова: Анатоль Кудравец, Барыс Пятровіч, Эдуард Акулін...

**— Няўжо тады, калі толькі пачаўся ў пэўным сэнсе пераварот у галоўных беларускіх часопісах, Вы не прадчувалі, да чаго хіліцца справа?**

— У той драматычны для нашай літаратуры час аддзел крытыкі часопіса "Полымя", дзе я працавала і дзе друкаваліся даўнія і выдатныя аўтары — паважаныя дактары навук, прафесары і акадэмікі, зналыя крытыкі і педагогі, аддаваць яго ў чужыя рукі, як і ўвесь свой творчы "палымянскі" набытак, прызнаюся, не рашалася. Цеплілася наіўная надзея, што, можа, нешта павернецца да лепшага і я яшчэ змагу быць патрэбнаю чытачам — настаўнікам, студэнтам, літаратарам, якія сёння задыхаюцца без беларускамоўных выданняў. Тым болей што многія з калег мне раілі не спяшацца, агледзецца. Адзін з тых дарадчыкаў нядаўна ўздыхнуў: "І як ты магла вытрымаць у тым холдынгу цэлы год?"

Магу сказаць толькі адно: за гэты час я неаднойчы адкрыта выступала не толькі супраць нелагічных і абразлівых рашэнняў дырэкцыі холдынга, але і супраць адыёзных публікацый, аднак натыркалася на глухую сцяну... Урэшце, мусіла пайсці на апошні крок — датэрміновае прыпыненне кантракта з дырэкцыяй холдынгу, чыя палітыка, вядзе, на мой погляд, не да ўзвышэння нацыянальнай літаратуры і абароны саміх творцаў, а да зусім процілеглага.

**— Ці не маглі б Вы канкрэтызаваць сітуацыю, што падштурхнула Вас да разрыву з холдынгам?**

— Мой асабісты боль і пратэст зусім не звязаны з нейкімі там сваркамі-звадкамі "кухоннага" кшталту. Тут іншае — куды больш глыбокае і істотнае не толькі для мяне. Сёння робіцца ўсё больш відавочным, што першапачатковыя лозунгі "рэфарматараў" — арганізатараў свежаспечанага холдынгу, — суцэльная прафанацыя. Больш таго: дырэкцыя азначанай установы распачала супраць аўтарытэтных літаратурных выданняў фактычна рэпрэсіўныя дзеянні: знішчаны колісь папулярны часопіс "Крыніца", на чарзе ў холдынгаўскі "крэматорый", падобна, і іншыя выданні.

Пры сённяшняй адсутнасці на старонках існуючых часопісаў і асобных зборнікаў холдынга твораў тых, хто ўжо займеў права быць гонарам айчыннай літаратуры, да ўжо названых мною аўтараў можна дадаць імёны Васіля Быкава, Івана Пташнікава, Віктара Карамазава, іншых аўтараў-палымянцаў. Чытачу прапаноўваюцца галоўным чынам "шэдэўры" каманднахолдынгавай закваскі. Загадзя агаваруся: я высока цаню творчасць Казіміра Камейшы, Андрэя Федарэнкі, Людмілы Рублёўскай, Віктара Шніпа, Алеся Бадака, Раісы Баравіковай, Алеся Наварыча (прабачце — спіс таленавітых аўтараў, хто пакуль што працуе ці друкуецца ў выданнях холдынгу, няпоўны). Але нельга не сказаць пра перавагу ў холдынгаўскіх выданнях глёўкай прадукцыі, якая адпавядае найперш інтэлектуальнаму ўзроўню і палітычным густам холдынгаўскай дырэкцыі. Уласны густ, а не аб'ектыўнасць пануюць зараз у тых выданнях. Іначай як патлумачыць, да прыкладу, што артыкул выдатнага крытыка Уладзіміра Конана пра творчасць майстра гістарычнай прозы Вольгі Іпатавай так і не быў надрукаваны? А вядомы празаік Віктар Казько быў змушаны друкаваць завяршэнне свайго распачатага ў "Полымі" рамана ў новым часопісе "Дзеяслоў". Прычыну змены месца "творчай дыслакацыі" ён патлумачыў нязгодай з гвалтоўна "забранымі ў наручнікі" слыннымі раней часопісамі. І маё эсэ пра Янку Брыля не было прынята да друку... У выніку стае зразумелым, што развіццё сучаснага літаратурнага працэсу прадстаўляецца чытачу ў даволі скажоным люстэрку, і гэта вынік задуманай і сілавым метадам рэалізаванай расправы з некалі папулярнымі часопісамі і іх тагачаснымі рэдактарамі.

**— Вы гаварылі і пра неспрыяльную маральную атмасферу ў выданнях холдынгу...**

— Так, мяне глыбока трывожыць навязаная холдынгаўскай дырэкцыяй задушная атмасфера, у якую міжволі акунаецца ўвесь літаратурны асяродак: атмасфера ўзаемнай непавагі, страху, непрыязнасці, віжавання. Але ў першую чаргу — **антыбеларускасці** ў самым шырокім сэнсе (нават калі мова выданняў — беларуская). Гэты дух культывуецца нізкапаклонствам перад вярхамі. І гэта ў той час, калі чытач, які пакуль яшчэ не адвярнуўся ад нацыянальнай літаратуры, чакае ад пісьменнікаў сур'ёзнай, заглыбленай, дасведчанай гаворкі з ім і, вядома, новых высокамастацкіх твораў.

Дазволю сабе згадаць некалі сказанае Элізай Ажэшка, знакамітай пісьменніцай і інсургенткай: "Веру, што з гэтага чорнага полымя народ выйдзе ўзмужнелым і ачышчаным..." Гэта — пра ўзвіхраныя гады пачатку мінулага стагоддзя. Але тое, што адбываецца ў наш час — прынамсі, у сумнавядомым холдынгу зусім далёкае ад духоўнага ачышчэння. Хіба магчыма такое, калі замест чыстага, яркага полымя чадзяць галавешкі?

Зрэшты, логіка гэтага добра зрэжысіраванага працэсу — відавочная. Дырэкцыя холдынгу — адно толькі "вінцік" у антынароднай палітыцы ганьбавання нацыянальных ідэалаў беларускага грамадства.

**— Калі ласка, патлумачце такую "экзатычную" з'яву — намер стварыць Мінскую гарадскую пісьменніцкую арганізацыю?**

— Сёння ў пісьменніцкім асяродку ўсё часцей гучыць слова "раскол", які звязваецца і са стварэннем гэтак званай Мінскай пісьменніцкай арганізацыі — яна была зусім нядаўна "кланіравана" ў холдынгаўскай прабірцы з паметкаю "одобрямс!". Пісьменнікі, якія па розных прычынах усё яшчэ змушаны працаваць у штаце РВУ "Літаратура і Мастацтва", але на ўстаноўчым сходзе не падтрымалі стварэнне літаратурнага "апендыкса" ў піку Саюзу беларускіх пісьменнікаў, адразу ж адчулі з боку кіраўніцтва холдынгу адміністрацыйны ўціск. І раней, і зараз чула ад многіх роспачнае: "Калі б можна было куды адсюль пайсці — нават не задумаўся б!"

Такая гнятлівая, далёкая ад творчай атмасфера пануе ў пакоях, якія яшчэ памятаюць крокі і галасы Аркадзя Куляшова і Максіма Танка, Анатоля Вялюгіна і Кастуся Кірэенкі, Андрэя Макаёнка і Алеся Адамовіча, Пімена Панчанкі і Івана Мележа, Міхася Стральцова і Варлена Бечыка, Рыгора Шкрабы і многіх іншых рэдактараў і членаў рэдкалегій, поплеч з якімі цэлыя дзесяцігоддзі пашчасціла працаваць, творча сталець і мне. Аднак сёння ў гэтых сценах, у гэтай літаратурнай прасторы адбываюцца зусім іншыя метамарфозы: у разгары шахматная гульня ў пасады, ахвярамі якой сталіся няўгодныя дырэкцыі пісьменнікі.

**— Што ж наперадзе, Валянціна Міхайлаўна? Як Вы бачыце свой далейшы творчы лёс?**

— Як і раней, у працы: літаратурнай, грамадскай.

Напісаўшы заяву аб перапыненні свайго кантракта з РВУ "Літаратура і Мастацтва", я адчула, як з душы зваліўся камень. Апошнім часам не толькі пацвердзілася, але і абвастрылася разуменне таго, што з-за канфліктных сітуацый, якія ўзнікалі паміж супрацоўнікамі і дырэкцыяй холдынгу, паміж холдынгам і Саюзам беларускіх пісьменнікаў, пачало руйнавацца агульнае паняцце вагомасці і запатрабаванасці літаратурнага таленту як Боскага дару. А ў чытацкай грамадскасці нівеліруецца, паслабляецца ўплывовасць і значнасць пісьменніцкага слова.

Усё шчымлівей адчуваю на сабе позіркі вялікіх настаўнікаў, з-пад чыйго крыла ўваходзілі ў беларускі літаратурны космас цэлыя пакаленні літаратараў. Яны заўсёды побач з намі — Францішак Багушэвіч і Цётка, Янка Купала і Якуб Колас, Ларыса Геніюш і Васіль Быкаў... Усе, хто, пераадолеўшы жахі літаратурнага і палітычнага ГУЛАГаў, сталі сэрцавінай айчыннага Дрэва Нацыі. Можна толькі ўявіць, як ацанілі б нашы патрыярхі сучасную літаратурную (і не толькі!) сітуацыю!

**— І ўсё ж...**

— І ўсё ж — перакананая: грамадствам, беларускім чытачом, усім народам заўсёды будзе запатрабаванай толькі сапраўдная, высокамастацкая літаратура з мужнай грамадзянскай пазіцыяй. Менавіта дзеля гэтага, нават сярод чаду і глуму мы павінны выстаяць, служыць сэрцам і пяром таму, у што верым, чаму адданыя. І перш за ўсё — дарагой Беларусі, яе будучыні.

**— Поспехаў Вам, шаноўная Валянціна Міхайлаўна, і добрага здароўя, каб хапіла яго на новыя цікавыя задумы і справы. А духоўнай сілы і творчага полымя Вам, дзякуй Богу, не займаць...**

**Святлана КЛІМЕНЦЕНКА.**

## ФРГ адзначае Дзень народнага смутку

*У Беларусі пройдзе шэраг мерапрыемстваў з нагоды Дня народнага смутку — 2003, які адзначаецца ў Германіі 16 лістапада. Штогод у гэты дзень жыхары дадзенай еўрапейскай краіны шануюць памяць ахвяраў войнаў і тыраніі.*

Як паведамляе прэс-служба нямецкага пасольства ў Мінску, супрацоўнікі дыпмісіі ФРГ і іншыя грамадзяне Германіі, якія жывуць у Беларусі, таксама будуць шанаваць памяць тых, хто стаў ахвярай войнаў і тыраніі тут, у Беларусі. Яны ўскладуць вянкі ў шэрагу памятных месцаў: на плошчы Перамогі, у Курапатах, каля мемарыяла ахвярам яўрэйскага гета ў Мінску "Яма". Акрамя таго, нямецкія грамадзяне ўшануюць памяць сваіх суайчыннікаў, загінуўшых у абодвух сусветных войнах, на салдацкіх могілках у пасёлку Тарасава (Мінскі раён).

Цэнтральнае ўрачыстае мерапрыемства з нагоды Дня народнага смутку пройдзе 16 лістапада ў сталіцы Германіі — Берліне.

**Вольга ЛАПІКАВА.**

## І куля не праб'е...

*Арыгінальныя бронекамізэлькі і бронештаны распрацаваны ў Фізіка-тэхнічным інстытуце Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Гэтае ахоўнае адзенне важыць паўтара-тры кілаграмы, у залежнасці ад прызначэння, а таксама перавышае большасць наяўных замежных узораў па дызайне.*

Розная вага вырабаў абумоўлена тым, што бронекамізэлькі, якія прымяняюцца на постсавецкай прасторы, арыентаваны на кулю са стальным сардэчнікам, якая мае павышаную ўбойную сілу і ў большасці краін Заходняй Еўропы і Амерыкі не выкарыстоўваецца. Пры вырабе новых бронекамізэлек і бронештаноў выкарыстоўваюцца такія матэрыялы, як кевар і розныя балістычныя плёнкі. Гэтыя распрацоўкі ўжо зацікавілі прадстаўнікоў розных сілавых структур, банкаў і спецпадраздзяленняў. Спецыяльна для апошніх дадаткова да бронекамізэлькі былі распрацаваны арыгінальныя непрабіваемыя штаны, у склад якіх уваходзіць лёгкі валакністы кампазіцыйны напаўняльнік. Дзякуючы гэтаму ў бронештанах надзейна захоўваюцца вострыя рэжучыя прадметы.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ.**

ГДЕ ЭТО ВИДАНО

## И это забота о народе?

Не все обратили внимание на недавний Указ президента Республики Беларусь за № 487. Называется он так: "О внесении дополнений и изменений в Указ президента Республики Беларусь от 19 мая 1999 г. № 285".

Каким же коррективам подвергается прежний документ? Я обратил внимание на такою строку: "подпункт 1.16 исключить". Кто будет искать Указ от 19 мая 1999 года, чтобы узнать, что в том подпункте было написано? А я нашел и узнал: в том подпункте было зафиксировано, что население Республики Беларусь не должно оплачивать более 50 процентов стоимости коммунальных услуг. Теперь это ограничение снимается. Вот почему у людей не хватает, скажем, пенсии, чтобы оплатить квартиру. И это забота о людях?!

Заметьте, когда повышаются зарплаты или пенсии на какие-то мизерные проценты — лукашенковская пропаганда месяцами не смолкает. Когда петля охватывает шею народа все туже и туже — ни гу-гу. Неужели наши правители думают, что терпение у людей бесконечное? Но тогда я хочу напомнить им известную поговорку: сколько веревочке ни виться — конец будет.

**Петр КАРПУШЕВ, избиратель.**

КРИМИНАЛ

## Скотокрады попались...

Под покровом ночи из сарая молочно-товарной фермы деревни Василевка неизвестные преступники увели двух телок, принадлежащих подсобному хозяйству КСУП Светлогорской районной сельхозхимии. Тогда мало кто мог подумать, что череда подобных краж растянется на... два года. Внимание крупному рогатому скоту преступники уделяли в трех регионах республики — Гомельской, Могилевской и Минской областях. С регулярной периодичностью от двух недель до месяца поголовье скота уменьшилось в СКП "Красная Армия", колхозе "17 партсъезд", КСУП "Тихиничи", совхозе "Дворец" Рогачевского района. Досталось колхозам "Прогресс", "Гигант", "Гороховский" и даже знаменитому на весь бывший Советский Союз "Рассвету", что в Кировском районе.

Не обошли воры и хозяйства Минской области — колхозы "Знамя коммунизма" и "1 мая". И это далеко не полный перечень сельхозпредприятий, где были зафиксированы кражи скота. Уже по адресам хозяйств можно понять — преступники постоянно меняли не только области, но и районы "набегов", дабы сбить работников милиции с толку. Ведь расследованием приходилось заниматься районным органам внутренних дел в каждой из трех областей.

Долгое время преступники действовали безнаказанно — им помогала темнота и, мягко говоря, неудовлетворительная охрана скота. Но права старая пословица: "Сколько веревочке не виться, а конец будет".

В апреле 2003 г. преступников задержали. Любителями телятины оказались два нигде не работавших 25-летних жителя Бобруйска. За два года они умудрились выкрасть 58 (!) голов крупного рогатого скота, причинив сельскохозяйственным предприятиям ущерб на общую сумму двадцать пять миллионов рублей.

Недавно уголовное дело было рассмотрено в суде Светлогорского района. Евгений Фролов ближайшие шесть лет , а его подельник Алексей Попко шесть лет и три месяца проведут в исправительной колонии усиленного режима. Имущество обоих конфисковано в доход государства. Остается надеяться, что до конца XXI века судебные исполнители сумеют добиться погашения виновными причиненного колхозам ущерба.

**Валерий КОЗУБОВ.**

